# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №3 (113)
ЛЮТЫ 2012 ГОДА


**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ВЫРАК СУДУ–СЛАБАСЦЬ РЭЖЫМУ

**24-га лютага ў Першамайскім судзе Віцебска вынесены вырак Сяргею Каваленку-2 гады 1 месяц калоніі агульнага рэжыму. Два месяцы з іх Каваленка ўжо правёў за кратамі. Паводле версіі абвінавачання, Каваленка ўчыніў чатыры парушэнні, адбываючы пакаранне па прыгаворы суда Кастрычніцкага раёна г.Віцебска. У маі 2010 года суд прыгаварыў апазіцыянера да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай ёлцы Віцебска 7 студзеня гэтага ж года. Каваленку ўтрымліваюць у СІЗА з 19 снежня мінулага года. У знак пратэсту супраць затрымання актывіст КХП-БНФ аб’явіў галадоўку.**

Учынак, які мог каштаваць любому абывацелю звычайнага штрафу, пацягнуў на 3 гады пазбаўлення волі і выклікаў шырокі розгалас у Беларусі і далёка па-за яе межамі: дэмакратычная грамадскасць усяго свету абураная палітычна матываваным абвінавачваннем і суворым выракам. Сталася так, што адзін свядомы і мужны беларус, апантаны сваёй ідэяй, здолеў ускалыхнуць не толькі інтэрнэт, але і ўзняць вялікую хвалю салідарнасці і падтрымкі.

А вось сваім стаўленнем да Каваленкі ўлада справакавала кампанію па дыскрэдытацыі ўласнага імджа, які і да таго быў прывабны толькі для ачмурэлых прапагандай асобаў.

За час галадавання Сяржук згубіў каля 25 кілаграмаў ўласнае вагі, але духам і паводзінамі гэта ўсё той жа чалавек, часам прасталінейны і рэзкі ў выказваннях. Калі ў першы дзень суда сваякі і сябры Каваленкі раілі яму спыніць галадоўку ці хаця б “піць вадзічку”, той абурыўся і заявіў: “Вы прывыклі быць слабымі! Каб апазіцыя хацела што рабіць, то рабіла б, выходзіла б са сцягамі. Нават беларускі фальклор прапітаны культам мужнасці і сілы. Я чытаў сыну казкі, я ведаю!” Дасталося і журналістам. “Тут палова кэгэбэшных журналістаў сядзіць!”.

У першы дзень судовага працэсу падсудны даў адвод перакладчыцы, настаўніцы адной з віцебскіх школ. “Перакладайце на беларускую, а не на трасянку!” – запатрабаваў ён. І час ад часу даваў ёй падказкі з-за кратаў: “Не вывад, а высноа. Не падляжыць, а падлягае. Не абаснаваць, а абгрунтаваць…” Суддзя задаволіла гэты адвод, тым больш што сама настаўніца прызнала, што не валодае мовай у такой ступені, каб перакладаць на судовым працэсе. Перакладчыцкія функцыі на сябе пасля ўзяў выкладчык факультэта беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя Машэрава Сяргей Міхайлаў, у якога няма праблемаў з юрыдычнай лексікай.

Як адзначае журналістка Ганна Соўсь, якая прысутнічала на працэсе 21 лютага, у асобе Каваленкі спалучылася некалькі розных іпастасяў.

”Ён– ПАКУТНІК.

Ён– РЭЖЫСЁР. “ Каваленка сам вядзе судовы працэс. Дзякуючы ягоным учынкам за першы дзень суда амаль не адбылося працэсуальных дзеянняў. Фактычна Каваленку з нежаданнем падпарадкоўваюцца і маладыя суддзя і пракурор, і міліцыянты”.

Ён – БУДУЧАЯ АХВЯРА ПРАПАГАНДЫ. “Рэзкія, экзальтаваныя паводзіны палітвязня, напэўна, могуць скарыстаць афіцыйныя ідэолагі. Хочаце сцяга? Хочаце беларускай мовы? Глядзіце, вось такія прыйдуць і навядуць свае парадкі”.

Ён–НЕ ПАЛІТЫК. “Каваленка – просты будаўнік з Віцебску. Ён мае ідэю. Ён апантаны. Ён прагне экстрыму. Ён моцны. Ён любіць Беларусь і бел-чырвона-белы сцяг.

Ён вывешвае сцягі, бо лічыць гэта сваім пакліканнем. Ён не ўмее казаць прыгожых словаў, не ведае, што такое дыпламатыя. Гэта ягоная сіла і ягоная слабасць. І ён змагаецца. Адзін. Як можа. Як умее”.

Ён– ПРОСТА ГЕРОЙ. “Сяргей Каваленка – палітвязень сучаснай Беларусі.У ім сканцэнтравана ўсё цяперашняе беларускае – боль, адчай, тупік, агрэсія, супраціў, нянавісць і надзея. Надзея, што ён выйдзе з турмы”.

З-за шматдзённай галадоўкі, якую трымае Сяргей, ён ледзьве стаіць на нагах, насілу кажа, блытае словы. На здымках ён мала адрозніваецца ад фатаграфій вязняў канцлагераў. Тым не менш, суддзя зацята працягвае лічыць яго стан здавальняючым для ўдзелу ў працэсе.



Шмат хто кажа: «дурное паміраць за сцяг». На розныя лады Сяргея заклікаюць адмовіцца ад галадоўкі.

Але ж ці можна лічыць біялагічны прынцып(жыццё перадусім!) бездакорным маральным законам.

Паводзіны Сяргея адваротныя біялогіі, адваротныя закону самазахавання. І гэта светчанне таго, што біялагічнае існаванне – не вышэйшая і не апошняя каштоўнасць у свеце.

Падумайце самі, у што ператвараецца ежа на наступны дзень, і хіба прыстойна чалавеку дзеля аднаго гэтага жыць? Урэшце, акрамя рота, страўніка ды некалькіх метраў кішак, у кожнааг індывіда шмат іншых органаў. Якія, калі іх не задзейнічаць, марнеюць і адміраюць, ператвараючы чалавека, калі скарыстаць вызначэннем Віктара Пялевіна, у «ротаж*па». Як напісаў у “ Народнай Волі” Зміцер Галко: “Цяпер Сяргей Каваленка з’яўляецца адным з такіх «дадатковых» органаў беларускага народа – органам волі, генам супраціву несправядлівасці, гвалту і тыраніі. І барацьбу за «новую Беларусь», якую ўвесь час прапануецца адкласці на потым, ён вядзе тут і цяпер.

Як сказаў беларускі пісьменнік Кастусь Чарнец, «Галадоўка, яе аб’ява – сродак засароміць не свайго турэмшчыка, а ўмоўнавольную грамадскасць за свае мужныя турмы. Што гэта вы маўчыце? Чаму не шуміце ўсёй сваёй вольнай грамадой?»

Але грамада маўчыць. Змізарнеласць ейных запатрабаванняў уражвае. Няўжо татальная хлусня і прапаганда вытапталі з тутэйшых людзей кволыя парасткі свабоды і перспектывы нацыянальнага росквіту, якія былі пасееныя лепшымі беларускімі грамадзянамі ў часы адноснай свабоды(1991-1994 г.г.) пад святым бел-чырвона-белым сцягам, які ў той час быў дзяржаўным і які з такой апантанасцю бароніць, як умее, просты віцебскі будаўнік Сяргей Каваленка?

Але слабое не толькі тутэйшае грамадства, слабая і дзяржава, якая замест пошуку нацыянальнай згоды распальвае грамадзянскую варожасць і з такой пагардай ставіцца да святых сімвалаў нашых продкаў. Абсурдным выракам па справе Сяргея Каваленкі ўлада засведчыла сваю слабасць і страх перад такімі мужнымі і шчырымі беларусамі, якія патрабуюць свабоды і дэмакратыі дзеля пабудовы дзяржавы адкрытай усяму свету, а не ізаляванай ад яго.

**Рэдактар.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# Добрае сэрца –вялікі скарб

**У абавязкі сацпрацаўніка ўваходзіць вялікі пералік аказваемых сацыяльных паслугаў: арганізацыя сілкавання, побыту і вольнага часу, сацыяльна-рэабілітацыйныя і кансультатыўна-інфармацыйныя мерапрыемствы. Штогод з усімі сацработнікамі праводзіцца вучоба, якая складаецца з асновы псіхалогіі, этыкі, даўрачэбнай медыцынскай дапамогі, ведаў па сацыяльным забяспячэнні і санітарных нормах.**

Запатрабаванасць гэтае прафесіі на вёсцы з года ў год расце. Самі ж сацработнікі, у прыватнасці, Марыя Камінская з в. Заполье лічаць, што самымі важнымі паслугамі неабходна лічыць маральную падтрымку і псіхалагічную дапамогу, простую чалавечую спагаду і спачуванне, якія пажылому чалавеку больш за ўсё і патрэбныя. Цяпло і ўвага, удзел і разуменне спрыяюць таму, каб яны не пачуваліся самотнымі людзьмі.

Сацыяльны працаўнік і торбы з прадуктамі цягае, і дровы ў хату, і поўныя вёдры вады са студні, і іншую дапамогу, улічваючы спецыфіку сяла, аказвае. Да яе адносяцца: пасадка і догляд за гародам, нарыхтоўка садавіны і гародніны на зіму, а таксама ачыстка дарожак ад снега, падпалка печы і г.д.

Хоць у кожнага чалавека свае запыты, свой настрой, у М. Камінскай 7 падапечных на ўчастку, з якімі ёй удаецца знайсці агульную мову.

Часам маўклівыя, часам запальчывыя і незадаволеныя бабулі, патрабуюць свайго падыходу. Бывае нялёгка знайсці з імі агульная мова, але спадарыня Камінская гэта зрабіла. Сацыяльны працаўнік павінен умець прабачаць і дапамагаць, суперажываць і цешыцца са сваімі падапечнымі. І рабіць гэта шчыра. А ўсе веды, якія патрэбныя для працы са старымі, можна атрымаць падчас працы ці вучобы , ды і свой уласны досвед мае не апошняе значэнне.

За гады абслугоўвання пажылыя людзі сталі для М. Камінскай больш чым падапечнымі, а хутчэй блізкімі, што заўсёды чакаюць ейнага прыходу.

Дзякуе сваю памагатую за ўвагу і клопат 76-летняя Валянціна Іванаўна з в. Новааляксандраўка. Бабуля заўсёды чакае прыходу сацпрацаўніка, які дастаўляе прадукты, прынясе ваду і зробіць іншую працу па гаспадарцы.

Хоць і дзеці ў Валянціны Іванаўны ёсць, але ўсё адно яна лічыць сябе самотнай, ды і здароўе ўжо не тое. Як былы медык, які адпрацаваў 40 гадоў у Запольскай лякарні, даўно навучылася «слухаць» свой арганізм. Два гады назад пахавала мужа, сын з дачкой выраслі, разляцеліся хто куды, а яна засталася бавіць свой век ў пустой хаце. Праўда пустэчу дапамагаюць запаўняць каты, іх у В.І. Фёдаравай тры: Мурка, Хлопчык і Мармышка не адыходзяць ад сваёй гаспадыні: вось лезуць пад руку, каб разам усесціся за чытанне «раёнкі», а вось ужо кружаць ля яе ног у прадчуванні чарговай порцыі ежы. Валянціна Іванаўна кажа, што па меры сваіх сілаў імкнецца самастойна і падлогу працерці, і абед прыгатаваць, каб лішні раз без патрэбы не нагружаць сацработніка, які прыходзіць да яе двойчы на тыдзень.

Працы хапае: зараз, калі у вёсцы замерзлі ўсе калонкі, за вадой прыйдзецца ісці ў Заполье. А адтуль бітон на санкі, ды ў зваротны шлях. Толькі з Новааляксандраўкі нас трое, а яшчэ чатыры чалавекі з Заполля.

У сацработнікі павінны ісці людзі, якія маюць самы вялікі скарб – добрае сэрца і ўласцівасць дзяліцца з іншымі гэтым багаццем.

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ПРАВАВЫ АСПЕКТ

## ПРАВАВОЕ БЯЗМЕЖЖА

**У мінулым годзе калектывам суда Віцебскага раёна разгледжана 295 крымінальных справаў, 2612 грамадзянскіх і 2655 адміністрацыйных. У межах якіх вынесены прыватныя вызначэнні: 21, 32 і 83 адпаведна . Самая вялікая колькасць па адміністрацыйных справах. Да крымінальнай адказнасці прыцягнуты 311асобаў.**

Сярод найбольш тыповых злачынстваў– крадзяжы, рабаванні, разбоі, прычыненне целавых пашкоджанняў, хуліганствы. Парадку 20 справаў за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення разгледжана паўторна.

У грамадзянскіх і адміністрацыйных справах пераважае запазычанасць перад юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, асабліва па банкаўскіх крэдытах, а таксама па выплаце камунальных плацяжоў, падаткаў і збораў, страхавых унёскаў.

Нямала справаў разгледжана пра накіраванне ў ЛПП, абмежаванні ў дзеяздольнасці, шмат і зваротаў у суд з нагоды скасавання шлюбу.

З ліку адміністрацыйных правапарушэнняў вылучаюцца дробныя хуліганствы, парушэнне правілаў палявання і рыбалоўства, знаходжанне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане.

Да пазбаўлення волі прысуджаны 67 чалавек, да абмежавання - 40, выпраўленчыя працы ўжыты ў адносінах да 28 грамадзянаў, адтэрміноўка выканання прысуду да 41 асуджанага, арыштаваны 66, аштрафаваны 30 чалавек. Дарэчы, агульная сума штрафаў, прызначаных па прысудах, складае 99925000 рублёў.

Суд практыкуе і выязныя паседжанні ў тых выпадках, калі справа мела вялікі грамадскі рэзананс. Да такой катэгорыі можна аднесці справы пра абмежаванні ў дзеяздольнасці, скасаванні дамовы наймання жылога памяшкання, пазбаўленні бацькоўскіх правоўю... На выязных паседжаннях разгледжана 26 грамадзянскіх, 15 крымінальных і 19 адміністрацыйных справаў.

Судовымі выканаўцамі ў адпаведнасці з Дэкрэтам № 18 па выканаўчых дакументах спагнана 1099512 тысяч рублёў, гэта складае 79,4 адсоткі. У 2010 годзе было спагнана толькі 50,8 адсоткаў. На тэрыторыі раёна пражываюць 222 абавязаныя асобы, з іх працуюць 163, у месцах пазбаўлення волі і ЛПП знаходзяцца 38. Сумна, што толькі 6 чалавек пакрываюць выдаткі на ўтрыманне ўласных дзяцей добраахвотна. Злосна ўхіляюцца - 15.

У мэтах умацавання законнасці, папярэджання злачынстваў і правапарушэнняў прачытана 192 лекцыі і праведзена 257 гутарак у працоўных калектывах, апублікавана 43 артыкулы ў газетах, зроблена 16 абагульненняў судовай практыкі па грамадзянскіх справах і два па крымінальных

**Ян Сведка.**

## Чаму столькі шмат парушэнняў?

**Пад кантролем супрацоўнікаў Віцебскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі знаходзіцца выкананне патрабаванняў санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства аб'ектамі гандлю, грамадскага сілкавання, прыдарожнага сэрвісу. За адзін месяц сістэмнага маніторынгу абследаванню падвергласся 588 аб'ектаў.**

Парушэнні былі выяўленыя на 278 аб'ектах. На 40 аб'ектах прадукцыя рэалізоўвалася з прамінулым тэрмінам прыдатнасці або без маркіраваных цэтлікаў, што не дазваляла ідэнтыфікаваць тэрмін яе рэалізацыі. Парушэнні тэмпературных умоваў захоўвання і рэалізацыі харчовых прадуктаў зафіксаваны ў 56 выпадках, – ільвіная доля якіх прыпадае на гандлёвыя аб'екты Віцебскай універсальнай базы.

За праверкамі ў адрас кіраўнікоў прадпрыемстваў накіроўваюцца лісты-патрабаванні, у якіх прадпісваецца як мага хутчэй выправіць парушэнні санітарных нормаў, і кіравацца гігіенічнымі нарматывамі.

За першы месяц 2012 года па выяўленых фактах у адносінах да да двзюх юрыдычных асобаў ужыты меры адміністрацыйнага ўздзеяння, агульная сума штрафных санкцый склала больш двух мільёнаў рублёў. 181 службовая асоба прыцягнута да адказу, на 139 накладзены штрафы, астатнія пратаколы пра адміністрацыйнае правапарушэнне знаходзяцца ў справаводстве.

Ёсць і такія, хто грэбуе медыцынскім аглядам, хоць праходжанне медкамісіі – адна з абавязковых умоваў працы на прадпрыемствах харчовага гандлю і агульнага харчавання. За гэта паплаціліся 25 грамадзянаў, якія па прапанове цэнтра былі адхілены ад працы да атрымання меддазволу. Акрамя таго, вынесены прадпісанні галоўнага дзяржаўнага санітарнага лекара г. Віцебску і Віцебскага раёна пра прыпыненне дзейнасці чатырох аб'ектаў.

**Ян Сведка.**

РАЗВАГІ

## КАМУ БУДУЦЬ СЛУЖЫЦЬ СЁННЯШНІЯ КАДЭТЫ?

**Першага верасня Лужаснянская школа-інтэрнат-гімназія для здольных і таленавітых дзяцей стала Віцебскай кадэцкай вучэльняй. Што паслужыла сапраўднай прычынай гэткага нечаканага пераўтварэння невядома, але чуткі ходзяць самыя неверагодныя.**

Калі глядзець павярхоўна, вучэльня створана на базе ваенна-патрыятычных класаў, арганізаваных у бытнасць гімназіі. Дванаццаць дзяцей першага выпуску паступілі ў Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь, і на сённяшні час з 284 выпускнікоў гэтых класаў больш за сто скончылі вну адпаведнага профіля.

Як сцвярджаецца, "ва ўстанове адукацыі вядзецца падрыхтоўка да службы ва Ўзброеных Сілах, органах унутраных справаў, падраздзяленнях па надзвычайных сітуацыях.

Люты ў Лужаснянскай установе адукацыі традыцыйна прысвячаецца абаронцам Айчыны. У вучэльню праходзіць месячнік «Служу Айчыне», у рамках якога праводзяцца сустрэчы з ветэранамі вайны і Ўзброеных Сілаў, экскурсіі і паходы, вікторыны, канцэрты і шматлікія іншыя мерапрыемствы грамадзянска-патрыятычнага ўтрымання".

Няглядзячы на прыгожыя словы, ад якіх, праўда, патыхае савецкім нафталінам, гэтая навучальная ўстанова, як мі падобныя ёй–небеларускія і дэнацыянальныя па сваёй сутнасці, бо 23 лютага для іх па-ранейшаму – " свяшчэнны дзень календара". Хаця дзень беларускай вайсковай славы святкуецца ўсімі свядомымі беларусамі ў зусім іншы дзень: 8 верасня, у гонар перамогі нашымі продкамі 80-тысячнага расейскага войска пад Воршай у 1514 годзе.

"Штогод у сценах сваёй установы адукацыі будучыя абаронцы Айчыны сустракаюць вайскоўцаў 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады. Урокі мужнасці не па кніжках, а на прыкладах сваіх старэйшых таварышаў дзеці вывучаюць уважліва. Бо віцебскія «блакітныя берэты» – прыклад дакладнага і сумленнага служэння сваёй зямлі.

Гісторыю роднага краю нашчадкі салдатаў Перамогі імкнуцца вывучаць «на мясцовасці»: традыцыйна збіраюцца ў «зорныя паходы» па месцах баявой славы сваіх землякоў-герояў.

Вось так, свята захоўваючы і прымнажаючы традыцыі пакалення пераможцаў, цяперашняе маладое племя - будаўнікі моцнай і квітнеючай Беларусі, лужеснянские кадэты жывуць з дэвізам «Жыццё - Айчыне, гонар - нікому!» і памятаюць, што ў аснове баявога і працоўнага подзвігу ляжыць каханне да Радзімы,"– піша раённая газета.

Гэткія сцвярджэнні, як словы завучаных на памяць, савецкія штампы, пазбаўленыя сэнсу, набрынялыя хлуснёй прапаганды. Усе гэтыя мерапрыемствы скіраваныя не на выхаванне сапраўдных грамадзянаў, а на ўзгадаванне маўклівых выканаўцаў чужыя загадаў. Усё гэтае выхаванне настолькі далёкае ад сапраўднай беларускай гісторыі і нацыянальных традыцый, што з гэтых дзетак могуць вырасці толькі паслухмяныя абаронцы рэжыму.

Няглядзячы на тое, што само паняцце кадэцтва аніяк не звязанае з савецкім перыядам( наадварот яно было для яго ідэалагічна непрымальным), былыя савецкія афіцэры заўзята вітаюць гадаванцаў вучэльні на разнастайных мерапрыемствах, што само па сабе выглядае, нонсансам, нейкай фантасмагарызнай з'явай .

Так на Беларусі была пэўная гісторыя кадэтства. Быў і Полацкі кадэцкі корпус – сярэдняя ваенная навучальная установа закрытага тыпу ў Полацку ў 1835-1918 гг. Месьціўся ён у былым комплексе езуіцкага калегіюма з 1835 г.. Але быў заснаваны ён у часы існавання Расейскай імперыі, калі нашыя землі знаходзіліся пад акупацыяй усходняга суседа. Аднак былі сярод выпускнікоў кадэцкіх вучэльняў, размешчаных да рэвалюцыі на нашых землях, не толькі адданыя служкі царызму, але і ўдзельнікі антырасейскіх паўстанняў. Толькі ўпэўнены, што на прыкладзе гэтых людзей сённяшніх дзетак-кадэтаў іхнія выхавальнікі не вучаць, бо самі яны –гадаванцы такой жа антыбеларускай сыстэмы.

З 2007 года аднаўлена і традыцыя полацкага кадэцтва. Падобных навучальных установаў зараз на Беларусі некалькі, таму паўстае мэтазгоднае пытанне: навошта нейтральнай паводле Канстытуцыі Беларусі адраджэнне вайсковых традыцый менавіта ў такім прарасейскім выглядзе? Як стасуюцца са свецкай адукацыяй словы з клятвы маленькіх кадэтаў «Душа — Богу»? І каму ў свой час будуць служыць аддана і з гонарам выпускнікі новаўзноўленых кадэцкіх корпусаў — Отечеству ці Айчыне?

**Якаў Дрозд.**

ПАДЗЕІ



## Не адзін Каваленка ў Віцебску

**У дзень суда над Каваленкам у Віцебску зноў лунаў нацыянальны сцяг.**

Пасля абеду 24 лютага, калі ў судзе Першамайскага раёна Віцебска ішоў чацвёрты дзень судовага разбіральніцтва па справе Сяргея Каваленкі і калі чакалася, што суддзя вынесе яму вырак, на праспекце Перамогі, 27 з'явіўся бел-чырвонабелы сцяг.

Сцяг знаходзіўся на электрычных правадах над дахам 9-павярховага дома. Каб зняць штандар, міліцыі і МНС спатрэбілася больш як 2 гадзіны. Да сцяга паднялі выратавальніцкую лесвіцу, і першы супрацоўнік МНС, які туды падняўся і павінен быў зняць сцяг, чамусьці доўга вагаўся. Па словах відавочцаў, ён стаяў, глядзеў на палотнішча, размаўляў па тэлефоне, але нічога не прадпрымаў.

Потым гэтага мужчыну спусцілі на лесвіцы ўніз, а на страшэнную вышыню падняўся ўжо іншы супрацоўнік, больш рашучы ці не такі зачараваны прыгажосцю нацыянальнага сцяга. Спроба перамагчы сцяг на гэты раз удалася.

**Я.Ільіна.**

ЗДАРЭННІ

## Колькасць пажараў павялічылася

**З пачатку сёлетняга году ў раёне адбылося 16 пажараў – на 6 больш, чым за аналагічны леташні перыяд. Колькасць загінулых аднолькавая – па 4 чалавекі.**

Два пажары здарыліся на аб'ектах сельгаспрадпрыемстваў. Так, 8 лютага апоўдні адбылося ўзгаранне ў побытавым памяшканні электраслужбы ААТ «Рудакова». У выніку агнём знішчана «бытоўка», пашкоджана сумежнае памяшканне матэрыяльнага склада і змешчаныя ў ім матэрыяльныя каштоўнасці. Папярэдне матэрыяльная шкода ацэньваецца ў 200 млн. рублёў. Чыннікам пажару з'явілася парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі электрапрыбораў (пакінуты без нагляду ўключаным у сетку 50-мятровы падаўжальнік з падлучанай да яго няспраўнай цеплавой гарматай). У гэты ж дзень у 15.56 адбыўся пажар у памяшканні электрашчытавой малочнатаварнай фермы КФХ «Дуброва» ў в. Гаркава, у якой утрымоўвалася парадку 200 галоў скаціны. Падчас ліквідацыі ўзгарання працаўнікамі гаспадаркі сумесна з супрацоўнікамі МНС скаціна была эвакуяваная. Знішчана памяшканне электрашчытавой на плошчы 60 кв. м і дах (10 кв. м). Чыннікам пажару паслужыла выкарыстанне для абагравання і падрыхтоўкі ежы электрапрыбора саматужнага выраба (электратэна).

У перыяд з 2008 года па цяперашні час у арганізацыях раёна, падведамасных Мінсельгасхарчу, адбыўся 21 пажар.

Адным з асноўных фактараў, якія спрыяюць узнікненню пажараў, з'яўляецца неналежнае выкананне і практычна поўнае ігнараванне кіраўнікамі сельгазарганізацый мерапрыемстваў, прадпісаных органамі Госпажнарнадзора. Як паказваюць праверкі, на аб'ектах сельгаспрызначэння часам нават напалову не выконваюцца раней прадпісаныя мерапрыемствы.

У ліку такіх сельгаспрадпрыемстваў названыя эксперыментальныя базы ім. Шмырова і «Тулава», ААТ «Адраджэнне», КУСХП «Пестуніца» і «Задуброўе».

Вынікі папярэдніх праверак кіраўнікамі сельгаспрадпрыемстваў часцяком не аналізуюцца, не абагульняюцца і, як следства, прадпісаныя мерапрыемствы, нават не патрабуючыя значных матэрыяльных выдаткаў, так і застаюцца на паперы. Хоць, як правіла, асноўнымі чыннікамі пажараў на сельгасаб'ектах з'яўляюцца парушэнні, якія маюць рэжымны эксплуатацыйны характар, і чалавечая бестурботнасць.

З 4-х фактаў згубы людзей на пажарах у двух выпадках чыннікам трагедыі паслужыла ўжыванне імі спіртных напояў і наступнае курэнне.

Назіральныя камісіі, створаныя пры сельвыканкамах, маюць характэрныя недахопы: метадам пажара-прафілактычнай працы навучаны не ўсе чальцы назіральных камісій. Ёсць пытанні і па замацаванні за імі населеных пунктаў (вуліц, домаўласнікаў). Тэрміны абследавання жылля часцяком зацягваюцца. У склад назіральных камісій не ўключаны працаўнікі установ адукацыі, культуры, аховы здароўя, службы ЖКГ і рэалізацыі звадкаванага газу, прадстаўніцтвы «Белдзяржстраха». У большасці выпадкаў склад назіральных камісій абмяжоўваецца старэйшынамі, працаўнікамі пассельвыканкамаў, РАУС і РАНС.

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО НАЗВАЛ ЗАРПЛАТУ 500 ДОЛЛАРОВ НИЗКОЙ

ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПОТРЕБОВАЛ В КРАТЧАЙШИЕ СРОКИ НЕ ПРОСТО ВЫЙТИ НА ДОКРИЗИСНЫЙ УРОВЕНЬ ДОХОДОВ, А ПРЕВЗОЙТИ ЕГО: «ЕСЛИ МЫ ПОЗИЦИОНИРУЕМ СЕБЯ, КАК СТРАНА САМОДОСТАТОЧНАЯ, КОТОРАЯ ЧЁ-ТО МОЖЕТ…»

Эта тема вновь всплыла 21 февраля во время рассмотрения Александром Лукашенко кадровых вопросов. Руководитель Беларуси говорил, как заправский оппозиционер:

– Что такое средняя зарплата в 500 долларов на человека? Это совсем низкий уровень…

Стоит отметить, что в декабре 2011 года средняя зарплата в Беларуси составила, по данным Национального статистического комитета, 2 877 658 рублей, или 344 доллара в эквиваленте, если для пересчета использовать курс Нацбанка на 1 января 2012 года. Получается, что до «низкого уровня» нам еще очень далеко.

Однако Александр Лукашенко оптимистично поставил задачу на протяжении года-полутора не просто выйти на докризисный уровень доходов, а превзойти его. «Если мы позиционируем себя, как страна самодостаточная, которая чё-то может», – добавил глава государства.

Впрочем, «Салідарнасць» припоминает, что задача превзойти 500-долларовую отметку уже ставилась. И было это четыре года назад.

29 апреля 2008 года, выступая с посланием к белорусскому народу, Александр Лукашенко обратился к тогдашнему премьер-министру Сергею Сидорскому:

– Сергей Сергеевич, надо возвращаться к требованию повышения заработной платы. Другого пути нет. На конец пятилетки нам надо заработную плату довести, боюсь говорить, до 700 долларов, никуда не денемся. 500 долларов будет мало. Надо 700 – среднюю зарплату по стране.

Глава правительства взял под козырёк. Зарплату стали наращивать, но через восемь месяцев грянула знаменитая новогодняя девальвация. С тех пор о 700 долларах никто даже не заикался.

Вторая попытка взять 500-долларовую планку закончилась еще веселее. После краткого периода благоденствия рубль в середине 2011-го обвалился со страшным треском.

И вот объявлен третий заход. Чем он закончится, вы уже знаете…

**Вадим Ливнев.**

СЛОВЫ І СПРАВЫ

# ЭКСПАРТНЫ ЦУД БЕЛАРУСІ: ЯК КРАІНА ЗАВАЯВАЛА ЕЎРАСАЮЗ

БЕЛАРУСЬ У 2011 ГОДЗЕ ДАСЯГНУЛА РЭКОРДНАГА ЗА ЎСЮ СУВЕРЭННУЮ ГІСТОРЫЮ АБ'ЁМУ ЭКСПАРТУ. ЗВЯРТАЕ НА СЯБЕ ЎВАГУ ТОЙ ФАКТ, ШТО ЭКСПАРТНЫ БУМ БЫЎ ЗАБЯСПЕЧАНЫ ШМАТ У ЧЫМ ЗА КОШТ ПАСТАВАК БЕЛАРУСКАЙ ПРАДУКЦЫІ Ў КРАІНЫ ... ЕЎРАСАЮЗА. НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СКЛАДАНЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ, КРАІНЫ ЕС З РАДАСЦЮ ГАНДЛЮЮЦЬ З БЕЛАРУССЮ, ЯКАЯ ЗАБЯСПЕЧВАЕ ЗАХАД НАФТАПРАДУКТАМІ І НАВАТ НАФТАЙ.

### Палітычныя сябры шкодзяць беларускаму гандлю

У 2011 годзе, паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, Беларусь экспартавала тавараў на суму 40,3 млрд. даляраў і павялічыла гэты паказчык у параўнанні з 2010 годам амаль на 60%.

Дзякуючы рэзкаму росту экспарту нашай краіне ў мінулым годзе ўдалося паменшыць адмоўнае сальда гандлёвага балансу, якое, як вядома, з'яўляецца коранем шматлікіх эканамічных праблемаў Беларусі. Калі ў 2010 годзе краіна мела адмоўнае сальда ў знешнім гандлі таварамі на ўзроўні 9,6 млрд. даляраў, то ў 2011-м - 5,45 млрд. даляраў.

Праўда, як гэта ні парадаксальна, нашы палітычныя саюзнікі (Расія, Кітай, Венесуэла) толькі пагаршалі гандлёвы баланс Беларусі.

Адмоўнае сальда ў знешнім гандлі з Расеяй вырасла ў 2011-м з 8,13 млрд. да 11,24 млрд. даляраў. Імпарт тавараў з Кітая перавысіў беларускі экспарт у гэтую краіну на 1,55 млрд. даляраў (у 2010-м адмоўнае сальда складала 1,2 млрд. даляраў). Нарэшце, «мінус» у гандлі з Венесуэлай у мінулым годзе склаў 931 млн. даляраў, што больш чым на 80 млн. перавышае адмоўнае сальда за 2010 год.

Цяпер паглядзім на гандлёвыя адносіны з нашымі палітычнымі апанентамі - краінамі Захаду. Адносіны ў нас з гэтымі краінамі настолькі дрэнныя, што падставы для папрокаў ўзнікаюць ці ледзь не кожны дзень. За апошні тыдзень беларускія ўлады тройчы крытыкавалі Захад (17 лютага МЗС асудзіў рэзалюцыю Еўрапарламента, 21 лютага - польскіх парламентарыяў за «канспіратыўных» візіты », а 23 лютага ўжо Аляксандр Лукашэнка абвінавацію Захад у спробах «гвалтоўнай змены ўлады»).

Тым не менш, складаныя палітычныя адносіны зусім не перашкаджаюць Беларусі развіваць гандаль з краінамі ЕС. Скажам больш: калі б не Еўрасаюз, ніякай станоўчай дынамікі ў знешнім гандлі Беларусі ў 2011 годзе не было б і ў памоўцы.

Дынаміка экспарту беларускіх тавараў у 2000-2011 гг. (млн. даляраў)




Крыніца: Белстат

### Нафтавы донар Еўрасаюза

За мінулы год беларускі экспарт у краіны Еўрасаюза вырас больш чым у два разы - з 7,6 млрд. да 15,7 млрд. даляраў. У той жа час імпарт з Еўрасаюза вырас прыкладна толькі на мільярд даляраў. Станоўчае сальда ў гандлі з Еўрасаюзам склала ў 2011 годзе 7 млрд. даляраў (для даведкі: у 2010-м станоўчае сальда знаходзілася на адзнацы 50 млн. даляраў).

Адбыліся змены, зрэшты, не азначаюць, што беларуская прадукцыя ў мінулым годзе стала сверхконкурентоспособной і вельмі запатрабаванай у краінах Еўрасаюза.

Прычыны росту беларускага экспарту ў ЕС прынцыпова ў іншым. У мінулым годзе Беларусь амаль на 40% (дзякуючы ўрэгуляванні нафтавага спрэчкі з Расеяй у студзені 2011 г.) павялічыла імпарт нафты і дзякуючы гэтаму нарасціла экспарт нафтапрадуктаў у Еўрасаюз.

Так, фізічны аб'ём экспарту беларускіх нафтапрадуктаў у Нідэрланды павялічыўся з 5 млн. тон у 2010-м да 7,2 млн. тон у мінулым годзе, у Латвію - з 853 тыс. тон да 1,9 млн. тон, у Італію - са 182 тыс. да 653,6 тыс. тон. Да гэтага варта дадаць, што павелічэнню экспартнай выручкі спрыяў і той факт, што за мінулы год, па дадзеных Белстата, сярэднія цэны на нафтапрадукты выраслі на знешніх рынках на 35%.

*Уклад нафтапрадуктаў у экспарт беларускіх тавараў у ЕС*

| | Экспорт нефтепродуктов (в млн. долларов) | Общий объем экспорта (в млн. долларов) |
|---|---|---|
| Нидерланды | 5477 | 6157,9 |
| Латвия | 1640 | 3150,8 |
| Эстония | 439,6 | 578,2 |
| Великобритания | 379,8 | 406,9 |
| Италия | 375 | 553,3 |
| Польша | 283,8 | 1123,2 |
| Литва | 247,2 | 859,3 |

*Крыніца: Белстат*

Пералічаныя фактары дазволілі Беларусі прыкметна павялічыць вартасны аб'ём экспарту ў краіны ЕС і забяспечыць істотнае станоўчае сальда ў гандлі з Захадам.

Праўда, быў і яшчэ адзін фактар, які дазволіў нашай краіне прыкметна павялічыць пастаўкі айчыннай прадукцыі на еўрапейскі рынак.

У 2011 годзе беларускі экспарт у Германію вырас у чатыры разы. Як вы думаеце, за кошт чаго? Беларусь туды стала пастаўляць ... нафту.

У 2011 годзе Расея забяспечыла беларускія НПЗ вуглевадароднай сыравінай, і ў нашай краіны, якая здабывае на сваёй тэрыторыі каля 1,7 млн. тон нафты, з'явілася магчымасць яе экспартаваць. У 2011 годзе Беларусь амаль усю сваю нафту на суму 1,29 млрд. даляраў паставіла ў Германію.

Сумарна нафтавай экспарт Беларусі (нафта плюс нафтапрадукты) у ЕС склаў у 2011 годзе каля 10,4 млрд. даляраў. Такім чынам, атрымліваецца, што беларускі экспарт у ЕС на дзве траціны з'яўляецца нафтавым. Вуглевадароды з'яўляюцца галоўным звяном, якое аб'ядноўвае сёння Беларусь з Еўрапейскім саюзам. Іншых шляхоў (ні эканамічных, ні палітычных) развіцця супрацоўніцтва Беларусі з ЕС сёння не праглядаецца.

**Дзмітрый Заяц.**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# «Хто найперш варты званьня рыцара - гэта Мікалай Статкевіч»

МІКОЛУ СТАТКЕВІЧА ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ПРЭМІЯЙ ІМЯ ЮРЫЯ ЗАХАРАНКІ «З УЗЬНЯТЫМ ЗАБРАЛАМ» ЗА МУЖНАСЬЦЬ У АБАРОНЕ РАДЗІМЫ, ЯКУЮ ТРАДЫЦЫЙНА ЎРУЧАЮЦЬ ДА 23 ЛЮТАГА ПРАВААБАРОНЦЫ ЦЭНТРУ ПРАВАВОЙ ДАПАМОГІ НАСЕЛЬНІЦТВУ І ЦЭНТРУ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.

Ляўрэатам прэміі імя Юрыя Захаранкі «З узьнятым забралам» за 2011 год стаў былы кандыдат на прэзыдэнта Мікалай Статкевіч. Абвяшчаючы гэтае рашэньне, кіраўніца Цэнтру правоў чалавека Раіса Міхайлоўская адзначыла мужнасьць палітыка, які не скарыўся падчас сьледзтва і ў беларускіх турмах, куды яго кінулі за палітычную барацьбу. Паводле Раісы Міхайлоўскай, камісія, якая вырашала лёс прэміі «З узьнятым забралам» за 2011 год, выбрала Міколу Статкевіча аднагалосна.

Праваабаронца Алег Воўчак адзначыў нязломнасьць і мужнасьць Статкевіча як чалавека і палітыка:

«Я ўжо 14 гадоў займаюся праваабарончай дзейнасьцю і бачу, як некаторыя палітыкі губляюцца, сыходзяць, а вось Мікалай — не, Мікалай ідзе да апошняга. Ён сапраўды ахвяруе сабой для Радзімы».

За 2010 год прэміяй «З узьнятым забралам» быў ушанаваны былы кандыдат на прэзыдэнта Уладзімер Някляеў. Ён тады сядзеў у «амэрыканцы», і дыплём за яго прымала жонка Вольга. «Сёньня я на волі і перакананы, што наступную прэмію ўручыць будучаму ляўрэату сам Мікалай Статкевіч», — сказаў Уладзімер Някляеў падчас уручэньня ганаровага дыплёма жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч:

«Калі б зараз былі рыцарскія часы і мы б насілі шчыты і мячы, то з поўным правам на шчыце Міколы Статкевіча было б напісана „Рыцар бяз страху і папроку“. Па сёньняшнім часе ён, можа, адзіны, хто мае поўнае права мець на сваім шчыце гэты надпіс».

Таксама Уладзімер Някляеў зачытаў верш, які напісаў для Міколы Статкевіча Рыгор Барадулін. Уладзімер Някляеў сустракаўся з народным паэтам і прынёс на ўручэньне прэміі аркуш з радкамі Барадуліна:

**«Міколу Статкевічу**

*Мужнасьць*
*гартавалася заўсёды*
*Ў небадарным полымі*
*сьвятла.*
*Не здаюцца рыцары*
*свабоды,*
*Каб нязломнай*
*Беларусь*
*была.*

**24.02.2012,**
**Рыгор Барадулін»**

Атрымліваючы ганаровы дыплём, жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч сказала, што абавязкова перадасьць яму ў Магілёўскую турму навіну пра ўшанаваньне яго ганаровай прэміяй.

«А што да добрых словаў пра майго мужа, то лепш за адміністрацыю калёніі ня скажаш, калі яны напісалі, што на шлях выпраўленьня ён ня стаў. Калі ў нашай краіне змагацца за сваю Радзіму — гэта злачынства, то хай ён будзе самым злосным злачынцам», — пажартавала жонка палітвязьня.

**Радыё Свабода.**

ПРАБЛЕМЫ ЧЭМПІЯНАТА

# ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ-2014: НЕ ПЕРАНОС З БЕЛАРУСІ, ДЫК БАЙКОТ?

ЕЎРАПЕЙСКАЯ НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ ЗАКЛІКАЛА СПАРТЫЎНЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ ЕС ПЕРАНЕСЦІ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ 2014 ГОДА З БЕЛАРУСІ АЛЬБО БАЙКАТАВАЦЬ ЯГО.

У рэзалюцыі, прынятай Палітычнай асамблеяй ЕНП, гаворыцца, што рэжым Лукашэнкі пазбавіў беларусаў асноўных правоў чалавека, у краіне няма дэмакратыі і вяршэнства закону, а таксама фальсіфікуюцца вынікі выбараў.

ЕНП выступае за тое, каб на наступным з'ездзе Міжнароднай федэрацыі хакею, які адбудзецца ў траўні ў Хельсінкі, было прынятае рашэнне аб пераносе чэмпіянату свету-2014 у іншае месца да таго часу, пакуль у Беларусі не адбудзецца зменаў у бок дэмакратызацыі. У выпадку, калі такое рашэнне не будзе прынятае, Еўрапейская народная партыя заклікае ўсе федэрацыі хакею краінаў Еўрасаюза і іншых дэмакратычных дзяржаваў байкатаваць гэтыя спаборніцтвы на тэрыторыі Беларусі.

Еўрапейская народная партыя мае самую вялікую фракцыю ў Еўрапейскім парламенце. Яна аб'ядноўвае правацэнтрысцкія партыі Еўропы. Рух "За Свабоду" супрацоўнічае з ЕНП. Лідар руху Аляксандр Мілінкевіч рэгулярна бярэ ўдзел у самітах Еўрапейскай народнай партыі, на якія з'язджаюцца ў тым ліку кіраўнікі многіх краінаў, уваходзячых і не ўваходзячых у ЕС, альбо лідары апазіцый.

РОДНАЕ СЛОВА

# «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ

ТЭЛЕКАНАЛ «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ, ЯКАЯ ПАЧНЕЦЦА 21 ЛЮТАГА, У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ. ЯНА ПРОЙДЗЕ ЗА ТРЫ ЭТАПЫ, НАСТУПНЫЯ ДВА ЗАПЛАНАВАНЫЯ НА 15 І 25 САКАВІКА. СЁЛЕТНЮЮ ДЫКТОЎКУ ТРАДЫЦЫЙНА АРГАНІЗОЎВАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (ТБМ).

Старшыня ТБМ Алег Трусаў кажа: «Нашая мэта – заклікаць людзей да дыктоўкі, даць ім тэксты, а далей ужо ідзе вольны валанцёрскі рух».

Дыктоўка валанцёрская, а значыць пісаць яе можна не толькі на сядзібе ТБМ, на ўроках літаратуры, слухаючы радыё або ўключыўшы «Белсат», але і зладзіўшы дыктоўку разам са сваімі блізкімі ды сябрамі.

Сёлетнюю дыктоўку арганізатары прысвяцілі юбілеям трох беларускіх літаратараў: Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы. Тэксты прапануюцца на выбар – гэта праграмны верш Максіма Танка і малавядомы ліст Янкі Купалы.

Зміцер Саўка, кіраўнік моўнай службы «Белсату», зазначае: «Дыктоўка – гэта арыгінальны спосаб заявіць пра ненармальнасць сітуацыі. Калі б у нас беларуская мова займала належнае месца ў штодзённасці, то, відаць, людзі б «пісалі дыктоўку» штодня. Інакш кажучы, яны запаўнялі б нейкія бланкі, яны пісалі б штосьці сваім калегам. А тут мы паказваем, што мала беларускай мовы ў штодзённасці, мала мы ёй карыстаемся. Давайце рабіць гэта часцей. І вось наўмыснасць такога, у пэўным сэнсе бессэнсоўнага дзеяння напаўняе яго не фармальным, а сімвалічным сэнсам».

Сімвалічныя выявы Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы будуць прысутнічаць на паперы і асадках, якія ўдзельнікі дыктоўкі атрымаюць ад «Белсату».

«Беларуская мова павінна быць у нашай штодзённасці, і дыктоўка павінна быць штодня ў кожнага чалавека, які ўмее пісаць. На жаль, гэтага няма, таму мы робім дыктоўку наўмысна», – падкрэслівае Зміцер Саўка.

Дыктоўку можна будзе напісаць і праз інтэрнэт. Відэадыктоўка, прачытаная славутаю беларускаю тэлевядоўцаю Зінаідаю Бандарэнкаю, будзе размешчаная на сайце www.belsat.eu.

## *РОДНАЯ МОВА*

**Максім Танк**

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што ляглo назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго, –*
*Ты выткана, дзіўная родная мова.*
*Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога б ты нам перадаць не магла.*
*Няма такіх нетраў, глыбокага мора*
*І гор, праз якія б ты не правяла*
*Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння*
*Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй*
*Над спаленай хатай, над родным загонам,*
*Над будучыняй і песняй маёй –*
*Над тым, што было і што век будзе вольным.*
*Народ пранясе цябе, родная мова,*
*Святлом незгасальным у сэрцы сваім*
*Праз цемру і годы змаганняў суровых.*
*Калі ж аападзе і развеецца дым*
*І нівы васкросшыя закаласяцца, –*
*Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,*
*Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,*
*Цымбалам дасі іх сарэбраны гром*
*І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*
*1943*

ЕЎРАПЕЙСКІ КІРУНАК

# ПРАВЕРКА НА ЯЙЦЫ

ЗАЯВА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ ПРА МАГЧЫМЫЯ ДЗЕЯНЬНІ АФІЦЫЙНАГА МЕНСКУ Ў АДКАЗ НА ЭЎРАПЕЙСКІЯ САНКЦЫІ – ДЭМАНСТРАЦЫЯ "НЕНАХІЛЯЛЬНАСЬЦІ", РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРЫНЦЫПУ "ЛЕПШАЯ АБАРОНА – ГЭТА НАСТУП". АДНАК ПАКУЛЬ ДЭМАНСТРУЕЦЦА АДНО – НАМЕР, ПАГРОЗА, КІРАЎНІК БЕЛАРУСІ НЕ ПАВЕДАМІЎ, ДЗЕ ПРАЛЯГАЕ ПРЫГАДАНАЯ ІМ "ЧЫРВОНАЯ ЛІНІЯ", ПАСЬЛЯ ПЕРАХОДУ ЯКОЙ ГЭТЫЯ ПАГРОЗЫ МОГУЦЬ СПРАЎДЗІЦЦА.

Словы, што Беларусь будзе абараняцца, "нават калі мы застанёмся ў адзіноце, без Расеі, Кітаю, бязь іншых нашых сяброў", ускосна сьведчаць пра тое, што звароты Менску да Масквы і Астаны праявіць салідарнасьць у гэтым пытаньні засталіся, глядзячы па ўсім, без станоўчага адказу.

Тым ня менш сёе-тое Менск сапраўды можа ў адказ зрабіць. Гэта найперш зваротныя візавыя санкцыі, што дыпляматычна карэктна, але па сутнасьці сьмешна – чыноўнікі ЭЗ ня так і рвуцца ў «сінявокую».

Больш сур'ёзная мера – дэманстратыўнае ўзмацненьне жорсткасьці рэпрэсіяў супраць апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці, каб паказаць, што эфэкт санкцый супрацьлеглы чаканаму. Нарэшце, гэта эканамічныя меры ў адказ – гэта варыянт найбольш эфэктыўны, але і найбольш небясьпечны для самога афіцыйнага Менску. Вайну нэрваў можна і прайграць, асабліва з улікам несувымернасьці эканамічных патэнцыялаў.

Аднак пагрозы могуць пэўны плён і прынесьці. Час для заявы Лукашэнка абраў невыпадкова. Нядаўні візыт у Беларусь прадстаўніка зьнешнепалітычнай службы ЭЗ Гунара Віганда, заявы, зробленыя ім у Менску, паказалі, што Эўропа знаходзіцца на пэўных ростанях – працягваць ранейшую палітыку адносна Беларусі ці карэктаваць.

Віктар Марціновіч нядаўна ў сваім блогу абураўся млявым тонам эўрапейскай дыпляматыі. Аднак гэтая млявасьць можа быць абумоўленая тым, што Беларусь насамрэч мае для Эўропы, як гэта горка ні гучыць, другараднае значэньне.

Тон размоваў, скажам, з Сырыяй ці Іранам зусім іншы. У адрозьненьне ад гэтых краін, адносіны ЭЗ зь Беларусьсю не зьвязаныя з праблемамі міжнароднай бясьпекі. На Іран ціснуць не таму, што ён парушае правы чалавека (хаця і парушае), а таму што іранская атамная бомба ёсьць пагроза рэгіянальнай і сусьветнай стратэгічнай стабільнасьці. Беларусь на гэтую стабільнасьць не замахваецца, палітыка санкцый ЭЗ адносна яе мае галоўным чынам маральную матывацыю. А з нагоды гэтай матывацыі варта прыгадаць зьедлівую рэпліку Генры Кісынджэра, сказаную ў сувязі з вайной у Косаве, але не толькі: «Жаданьне заходніх дэмакратычных краін ісьці на рызыку ў імя абароны маральных каштоўнасьцяў вызначаецца вышынёй палёту іх бамбавікоў». Сваёй заявай Лукашэнка імкнецца павысіць рызыку палітыкі каштоўнасьцяў для Эўропы, фігуральна кажучы, «зьнізіць вышыню палёту» эўрапейскіх палітычных «бамбавікоў».

Ці дасьць гэта плён? Магчыма (і нават хутчэй за ўсё) гэтыя грозныя абяцаньні Лукашэнкі – проста блеф. Пра магчымасьць дзеяньняў афіцыйнага Менску ў адказ гаварылася ня раз, як, дарэчы, неаднаразова гучалі і абяцаньні дакладна палічыць, хто і колькі каму вінны ў адносінах Беларусі і Расеі. Але дагэтуль гэтыя пагрозы ніколі не спраўджваліся.

У міжнароднай палітыцы пагроза часам мацней за яе выкананьне. І сёньняшнія заявы Лукашэнкі заснаваныя хутчэй за ўсё на яго меркаваньні, што «ў эўрапейскіх лідэраў няма яец». Рэакцыя Эўропы будзе ў пэўнай ступені праверкай, ці мае рацыю кіраўнік Беларусі.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

# КТО ВИДЕЛ «ЕВРОФЕСТ», ТОТ В ЦИРКЕ НЕ СМЕЕТСЯ

С ОТБОРОМ НАЦИОНАЛЬНОГО ИСПОЛНИТЕЛЯ НА "ЕВРОВИДЕНИЕ" ХОТЕЛИ ИЗОБРАЗИТЬ СКАЗКУ ПРО ЗОЛУШКУ, А ПРЕДЪЯВИЛИ ПУБЛИКЕ ПАРВЕНЮ. "ДЕВОЧКА-СИРОТА, КОТОРАЯ ВСЕГО ДОБИЛАСЬ САМА", ОКАЗАЛАСЬ КАК МИНИМУМ НЕ СИРОТИНУШКОЙ. И КАК МАКСИМУМ – ДОБИЛАСЬ СОМНИТЕЛЬНОЙ РЕПУТАЦИИ.

Алена Ланская пока пребывает в образе жертвы и отказывается общаться с журналистами. А все, кто подыгрывал этому шоу, ищут себе новое амплуа.

Организаторы фестиваля «Еврофест» – Александр и Анастасия Тихановичи, которых на совещание к Лукашенко не пригласили, – провели истеричную пресс-конференцию с заламыванием рук: «Не виноватые мы!» Министр культуры Павел Латушко прочитал пред президентом покаянную речь по бумажке. «Не причастен, не участвовал, поручений не давал, узнал на сцене, должен был, самокритично оцениваю...»

Главный спонсор, связь фамилии которого с Ланской для всех более-менее причастных давно является секретом Полишинеля, решил обидеться и соскочить. «Для всех нас очень важно, чтобы наша страна хорошо позиционировалась в Европе, чтобы мы действительно показали, что мы гордая независимая и достаточно культурная, образованная страна. И что мы можем сегодня достойно представлять нашу эстраду на европейском рынке, – произнес зазученную фразу глава «Амкодора» Александр Шакутин, но далее речь пошла не так гладко. – Но, к сожалению, события, которые произошли потом, в том числе после голосования, и та грязь, которая вылилась в Интернете... Я когда прочитал... Мне, Александр Григорьевич... Позвольте я окажу финансовую помощь, но идеологически участвовать в этом мероприятии и доведении его до финала мне сложно как мужчине. Потому что я никогда в этой жизни не позволял обижать женщин».

Однако всех превзошел глава Национальной телерадиокомпании Геннадий Давыдько, который даже в этой куче навоза, вывалившейся в связи с «Еврофестом», решил поискать что-нибудь для себя полезное.

– Данная ошибка (это ошибка, я ее признаю) – невнимательность к процедуре подсчета голосов – сделала меня мудрее и опытнее как руководителя, – скромно подытожил Давыдько.

Без слов, как говорится. Потому что в итоге в этой истории нашелся Баранов на заклание (как написал Сергей Малиновский). Оказывается, это продюсер Дмитрий Викторович Баранов, правая рука Тихановичей, в отечественном шоу-бизнесе является самым влиятельным и инициативным.

**Светлана Калинкина.**

КАНФЛІКТ З ЕЎРОПАЙ

# ЭЎРАЗЬВЯЗ АДКЛІКАЕ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ МЕНСКУ

«КРАІНЫ ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ НА ЗНАК САЛІДАРНАСЬЦІ АДКЛІЧУЦЬ СВАІХ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ», — ЗАЯВІЛА КІРАЎНІЦА ЭЎРАПЕЙСКАЙ ДЫПЛЯМАТЫІ КЭТРЫН ЭШТАН. УСЕ КРАІНЫ ЭЎРАЗЬВЯЗУ ТАКСАМА ВЫКЛІЧУЦЬ БЕЛАРУСКІХ АМБАСАДАРАЎ У СВАЕ МІНІСТЭРСТВЫ ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ.

Рашэньне было прынятае пасьля тэрміновай нарады, якую Кэтрын Эштан склікала ў Брусэлі пасьля зьяўленьня інфармацыі пра тое, што афіцыйны Менск запрапанаваў амбасадарам Польшчы і ЭЗ у Менску ад'ехаць у свае краіны на кансультацыі.

Пасьля нарады прэсавая сакратарка Эштан Мая Кацыянчыч заявіла:

«На знак салідарнасьці і еднасьці мы дамовіліся, што пасьлы краінаў Эўразьвязу ў Менску будуць усе адкліканыя для кансультацыяў у свае краіны. Усе краіны Эўразьвязу таксама выклічуць беларускіх амбасадараў у свае міністэрствы замежных справаў».

Раней міністар замежных справаў Нямеччыны Гіда Вэстэрвэле заявіў у Брусэлі, што Бэрлін адкліча свайго пасла зь Менску, бо «захады супраць ЭЗ і Польшчы — гэта таксама захады супраць Нямеччыны».

МЗС Польшчы назваў крокі Менску «непрыязнымі», а канцылярыя прэзыдэнта Браніслава Камароўскага паінфармавала, што прэзыдэнт «са шкадаваньнем успрыняў інфармацыю аб гэтым незразумелым рашэньні».

**Заснавальнік і рэдактар:**
Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197

**Падпісана да друку 29.02.2012 у 17.45.**
Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.